Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

● №52 (90) ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ ●27 снежня 1996 года-2 студзеня 1997 года ●Цана 1500 руб.

З Новым Годам!

## Змей-Ільіч у год Быка

*МАЛАДЗЕЧНА. Любімец публікі, акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра Барыс Донін нарадзіўся ў год Змяі. Таму родныя і блізкія яго і клічуць "Змей-Ільіч".*

Ён не заканчваў тэатральна-мастацкі інстытут. Прафесіяналізм фарміраваўся на аматарскай, а затым і прафесійнай сцэне. Ды і нагул Ільіч у жыцці акцёр.

У летніку (там ён начальнік) добра знаёмым у суп солі насыпле, за нагу цапне і зарычыць сабакам. Ці арганізуе незвычайны футбольны матч. На поле выйдзе каманда бабуль— у спадніцах, хустках. А выведзе футбалістак прыгажуня-маладзіца Донін. Фантазія багатая. За гэта яго яшчэ больш паважаюць.

Пачатак года Быка для Барыса Ільіча амаль юбілейны. Як-ніяк 55.

*— Наступны год хачу пражыць без зменаў. Не той узрост, каб штосьці мяняць у творчым, асабістым жыцці. Ды яно поўнасцю мяне задавальняе. Толькі каб не было трагедый. Сёлета два таленавітыя маладыя акцёры, нашы калегі, пайшлі з жыцця. Гэтыя смерці— наш боль і смутак.*

*Чытачам "РГ"— дабрабыту. Сабе таксама жадаю. Бо я прыхільнік газеты.*

*Васіль САВІЦКІ.*

## Навіны

### Семінар у краі зуброў

***ВАЛОЖЫН. З 1983 года не праводзіліся такія мерапрыемствы. Нядаўна ў мясцовы лясгас з'ехаліся на семінар, прысвечаны праблемам лясной і паляўнічай гаспадаркі, спецыялісты з усёй Беларусі.***

У гэтыя дні госці пабывалі ва ўрочышчы Цякава ў Румскім лясніцтве, дзе гадуюцца зубры. Дарэчы, зубрыны статак павялічыўся ў Налібоцкай пушчы з 15 да 24. Сёлета нарадзілася тут шасцёра зубранят. Пазнаёміліся ўдзельнікі семінара з выстаўкай біятэхнічных і паляўнічых збудаванняў для аленя, казулі, дзіка, іншых звяроў і птушак, арганізацыяй і правядзеннем загоннага палявання. Прайшлі паказальныя стрэльбы на круглым стралковым стэндзе.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Наваселле для ветэранаў

***МАЛАДЗЕЧНА. 62-кватэрны жылы дом для інвалідаў і ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, нарэшце, увайшоў ў эксплуатацыю. У ліку навасёлаў 25 удзельнікаў вайны ў Афганістане.***

Размешчаная па суседству з гарадскім паркам, шматпавярхоўка пакрыта двухскатным дахам, канструкцыя якога прыменена будаўнікамі горада ўпершыню. Па меркаванні праектавальнікаў, яна дазволіць жыхарам не клапаціцца аб рамонце ў бліжэйшыя 10-15 гадоў.

Будынак адрозніваецца прыгожым фасадам. Ён забяспечаны ліфтамі і спецыяльнымі лесвіцамі для ўезду інвалідных калясак. Ва ўтульных кватэрах рознай планіроўкі ўстаноўлены прыборы для ўліку вады і газу. На першым паверсе размесцяцца памяшканні медпункта, магазіна "Кулінарыя" і служба сацыяльнай аховы.

*Наталля РАБЧАНКА.*

### У новы год — з Верай, Надзеяй, Любоўю

***АШМЯНЫ. Сям'я Педчанкаў ў канцы года атрымала папаўненне.***

На 17-м тыдні цяжарнасці гаспадыню здзівілі ўрачы. Яны папярэдзілі: будзе тройня.

Так вёска Нарбуты ўвайшла ў гісторыю. Па статыстыцы, у маленькім раёне падобны выпадак можа здарыцца раз у 30-40 гадоў. Вера, Надзея, Любоў— такія імёны далі немаўлятам— нарадзіліся здаровымі на радасць бацькам і пяцігадоваму брацiку Уладзіславу. Вага дзяўчынак была невялікай— 1850 г, 2250 і 2130 г. Двух немаўлят маці корміць сама, а адно выкормліваюць штучна.

Працуюць Педчанкі ў калгасе і было б нядрэнна, каб жыхары рэгіёна ім дапамаглі. Бо Вера, Надзея, Любоў— спадарожнікі нашага жыцця.

*Аддзел інфармацыі.*

### А я сяду ў кабрыялет

***Напярэдадні каталіцкіх Калядаў сюрпрыз паднёс мясцовы аўтапарк N 4. Праўда, не ўсім, а тым, хто карыстаецца паслугамі аўтобусаў. З 20-х чыслаў месяца прыпынены рух па маршрутах на Стрыпуны, Солы, Катлоўку, Градаўшчызну.***

Але на гэтым падобная хваля не спынілася: аўтатранспартнікам прыйшлося адмяніць маршруты і на Кямелішкі, Ашмяны, іншыя населеныя пункты. Сёння рух аўтобусаў у прыгарадных накірунках амаль спынены, калі не браць пад увагу тое, што ў Астравец пару разоў на дзень "зазіраe" аўтобус з ашмянскага аўтапарка N 13, ды яшчэ 2-3 ходзяць па раёне.

Чым далей у лес, тым болей дроў. Такая сітуацыя, па словах начальніка пасажырскай калоны Іосіфа Катовіча, склалася з-за адсутнасці бензіну. Каб захаваць маршруты, аўтапарку штодзень трэба мець каля 1200 л паліва, на што да канца адыходзячага года патрэбна 92 мільёны рублёў.

Відавочна, сітуацыя не палепшыцца і ў першых чыслах студзеня, бо даўжнікі аўтатранспартнікаў наўрад ці разлічацца. Пасажыры, памерзнуўшы на прыпынках і не дачакаўшыся аўтобусаў, думаюць пра неабходнасць набыцця ўласных кабрыялетаў. Хаця з грашыма і ў іх праблемы. Застаецца спадзявацца на ўласныя ногі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Адным абзацам

❒Нарэшце адкрылася свабодная эканамічная зона ў Брэсце. Замежныя прадпрымальнікі зрабілі стаўку на брэсцкі плацдарм для засваення рынкавых прастораў Беларусі і СНД. Горад атрымаў ужо каля 60 мільярдаў долараў на развіццё вытворчых магутнасцяў, будзе дадаткова створана дзве тысячы працоўных месцаў.

❒20 снежня пяцёра грамадзян Украіны, што трапілі за краты пасля ўдзелу ў "Чарнобыльскім шляху" 26 кастрычніка, датэрмінова вызвалены па закону аб амністыі.

❒У бліжэйшы час нам трэба чакаць паэтапнага павышэння тарыфаў на электраэнергію, сабекошт якой залежыць ад курсу долара. Таксама з новага года плануецца павысіць тарыфы на цеплаэнергію да 15 працэнтаў.

❒У панядзелак мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту, Патрыяршаму Экзарху ўсёй Беларусі першы намеснік старшыні КДБ Л. Ерын перадаў 25 ікон для Заслаўскай царквы. Гэтыя іконы 17-19 стагоддзяў былі сканфіскаваныя пры спробах кантрабанднага вывазу за межы рэспублікі.

❒На Маладзечаншчыне за мінулыя 11 месяцаў сіфілісам захварэў 391 чалавек (па горадзе— 312 выпадкаў). Гэта на 142 чалавекі больш, чым за мінулы год. Колькасць хворых на ганарэю зменшылася— 124 выпадкі (1995 г.— 198).

❒З 20 па 21 снежня ў Лінгвістычным універсітэце прайшоў міжнародны фестываль "Студэнцкія калядкі-96", дзе спаборнічалі ў знаходлівасці і весялосці прадстаўнікі з Украіны, Расіі і Беларусі. Першае месца прысудзілі камандзе Мінскага педуніверсітэта "Георгій", другое— тэатру "Калізей" з БДПА, трэцяе— курсантам Смаленскай вайсковай акадэміі.

❒У кінатэатры "Масква" адкрыўся першы міжнародны фестываль "Блюз жыве ў Мінску". У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі з Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі і Беларусі. Фестывалю ўдалося выканаць пастаўленую мэту— сабраць на адной сцэне выканаўцаў розных стыляў і накірункаў. Магчыма, свята стане штогадовым.

❒Яшчэ адно свята адбылося напярэдадні Калядаў. Мінск наведаў папулярны выканаўца беларускіх песень, надзвычай таленавіты чалавек— Данчык. У сваім другім турнэ па Беларусі ён даў канцэрты ў Мінску, Полацку, Гродне, Віцебску.

❒Урад краіны прыняў рашэнне падоўжыць святкаванне Новага года— працоўны дзень з 2 студзеня перанесены на 11 студзеня.

## Чым год мінулы запомніўся

*(па старонках "РГ")*

❖Першы выпускнік Гродзенскай семінарыі ксёндз Павел Халявін адправіў службу ў Вілейцы.

❖Смаргонь: таямнічая выява— кожны ўбачыў тое, што хацеў. У тэрапеўтычным аддзяленні райбальніцы ў акне адной з палат з'явіўся вобраз Ісуса Хрыста.

❖Жыццё таннее. Яно ўяўляецца чалавеку нікчэмным. І ўсё часцей мы чуем пра самагубствы. 40 фактаў самагубстваў зарэгістравана ў Маладзечанскім раёне.

❖У маладзечанскую дзіцячую бальніцу патэлефанаваў невядомы і папярэдзіў, што ў ёй закладзена бомба. Хутка былі эвакуіраваны 143 дзіцяці, 45 мацярок, 60 чалавек персаналу. "Жартаўнік"— дэбіл,— выказаліся ўрачы неўралагічнага дыспансера.

❖Маладзечанскім аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю за малы тэрмін выяўлена 14 выпадкаў рэкету. "Аўтарытэты" затрыманыя.

❖Маці Ганны Фёдараўны Кнігі, доўгажыхарка з Маладзечна, пражыла на гэтым свеце аж да 101 года. А яе дачка ў свае 100 адзначыла наваселле і ўжо 10 год— у новай трохпакаёўцы.

❖Беспрацоўе дасягнула Івянца і вывела яго ў лідэры.

❖Дом састарэлых— наш агульны боль. Не так даўно двое яго прабывальнікаў афіцыйна зарэгістравалі шлюб. Абодвум за 60.

❖Брэсцкая крэпасць у цэнтры Валожына— жыхарка дома №4 па вул. Савецкай Зіна Бруева памерла, не дачакаўшыся канца рамонту дома.

❖Хто прымаў роды ў непаўналетняй? Замест адказу на пытанне рэдакцыя атрымала позву ў суд і іск на 30 мільёнаў рублёў. Прысуджана да выплаты 5 мільёнаў.

❖Самы юны выпівоха рэгіёна— чацвёртакласнік з Валожына.

❖Чатыры цукеркі і паўкілаграма мукі засталося ў хаце беспрацоўнай з Астравеччыны.

❖Ніна Пятровіч з Валожына стаіць у чарзе на атрыманне жылля 22 гады.

❖У свае 113 баба Шура з Крэва без нажа і відэльца есці не садзіцца.

❖У Светлагорску ўспышка СНІДу, якой няма роўных у СНД.

❖40 дзён, якія скаланулі Валожын,— на геастанцыі "Заходняя Бярэзіна" зарэзалі студэнта. У друку звесткі аб звальненні за гэта старшыні райвыканкома.

❖Генадзь Карпенка падорыць свой катэдж таму, хто гэты катэдж знойдзе.

❖Смаргонцам мяняюць мэра— мэр паспеў падаць у адстаўку, а вось намесніка звольнілі.

## Майкл Карабухін цёзку Джэксану шанцу не дасць

***МАЛАДЗЕЧНА. Штогод у школе мастацтваў напярэдадні Каляд праводзіцца конкурс навучэнцаў-вакалістаў і танцораў. Сёлета ў шматлікіх намінацыях спаборнічалі паміж сабою і выкладчыкі.***

У конкурсе аўтарскай песні, да прыкладу, настаўнік фізкультуры Міхаіл Карабухін адзначыў, што нікому з эстрадных зорак не даверыў бы свае песні. Выкладчык, дарэчы, бярэ ў музвучылішчы ўрокі па класу вакалу. Яго сын Віталь год таму перамог у рэспубліканскім конкурсе вакалістаў сярод хлопчыкаў.

Дзіцячаму танцавальнаму калектыву "Юнацтва" за перамогу ўручылі аўдыёмагнітафон. Пераможцы-навучэнцы атрымлівалі аўдыёплэеры, настаўнікі— кававаркі, посуд. Удзельнікам дарылі мяккія цацкі, торты, цукеркі, відэакасеты.

Спонсарам выступіла фірма "Школа энд бацькі". А маленькага Сашу Салаўёва за дарослую песню "Ромашки для Наташки" пуцёўкай у "Зубраня" узнагародзіў гарвыканком.

*Васіль САВІЦКІ.*



# ГОД 1997

## СТУДЗЕНЬ / ЯНВАРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Птн | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## ЛЮТЫ / ФЕВРАЛЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Птн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | |

## САКАВІК / МАРТ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Птн | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

## КРАСАВІК / АПРЕЛЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Птн | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## ТРАВЕНЬ / МАЙ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Аўт | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ср | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Чц | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Птн | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Сб | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ндз | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## ЧЭРВЕНЬ / ИЮНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Аўт | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ср | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Чц | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Птн | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Сб | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ндз | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |

## ЛІПЕНЬ / ИЮЛЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Аўт | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ср | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Чц | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Птн | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Сб | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ндз | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## ЖНІВЕНЬ / АВГУСТ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Аўт | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ср | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Чц | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Птн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Сб | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ндз | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

## ВЕРАСЕНЬ / СЕНТЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Птн | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ндз | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## КАСТРЫЧНІК / ОКТЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Аўт | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ср | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Чц | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Птн | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Сб | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ндз | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## ЛІСТАПАД / НОЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| Аўт | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| Ср | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Чц | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Птн | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Сб | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ндз | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

## СНЕЖАНЬ / ДЕКАБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Аўт | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ср | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Чц | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Птн | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Сб | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ндз | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## ДЗЯРЖАЎНЫЯ СВЯТЫ

1 студзеня - Новы Год; 7 студзеня - Каляды (праваслаўныя); 8 сакавіка - Дзень жанчын; 15 сакавіка - Дзень Канстытуцыі; 30 і 31 сакавіка - Вялікдзень (каталіцкі); 27 і 28 красавіка - Вялікдзень (праваслаўны); 1 траўня - свята Працы; 6 траўня - Радаўніца (праваслаўная); 9 траўня - Дзень Перамогі; 27 ліпеня - Дзень Незалежнасці; 2 лістапада - Дзяды; 7 лістапада - Дзень Кастрычніцкай Рэвалюцыі; 25 снежня - Каляды (каталіцкія).

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ газета

Адрас рэдакцыі: Маладзечна, вул. Б.Хмяльніцкага 10. Тэлефон (факс): 01773 5-38-41.

## Суббота, 4 января

**БТ**

**7.30** Утренний коктейль. **7.45** "Музыкальная обойма". Белорусский хит-парад. **7.50** М/ф. **8.00** Новости. **8.15** Созвучие. Передача из Витебска. **8.35** Здоровье. Профилактика кариеса. **9.15** Уроки Н.Новожиловой. **9.45** "Сказка о влюбленном маляре". Худ.фильм. **11.00** Все про все. **11.25** "Тропическая жара". Телесериал. **12.25** Мир природы и увлечений. **12.50** "Листья каштанов". Телеспектакль. **14.30** Музыка без границ. Информационно-музыкальная программа. **15.00** Новости(с сурдопереводом). **15.45** Концертный сезон. Конкурс солдатской песни. **17.05** Олимп: от подножия к вершине. **17.25** Многоголосие. Эстонские и латышские группы на Беларуси. **18.00** Новости. **18.15** "Тропическая жара". Телесериал. **19.15** Тема дня. **19.30** "Музыкальная обойма". Белорусский хит-парад. **19.35** "Четвертое измерение". **20.00** Галерея. Поэт Леонид Дранько-Майсюк. Авторская программа Т.Егоровой. **20.30** Музыкальный антракт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Компания "Цептер" представляет: Тьерри Лермит и Миу Миу в худ.фильме "Тотальная слежка" (Франция). **23.35** "Музыкальная обойма". Итоги недели. **23.50** Новости. **24.00 Видимо-невидимо.**

**ОРТ**

**9.00** Новости. **9.15** "Непутевые заметки" Дм.Крылова. **9.35** Пока все дома. **10.15** Утренняя звезда. **11.05** Служу России! **11.30** Играй, гармонь любимая! **12.00** Провинциальные истории. **12.30** Сериал "Подводная одиссея команды Кусто"."Улыбка моржа". **13.25** Смехопанорама. Ведущий — Е.Петросян. **14.00** Новости. **14.20** Ростропович, Моцарт и Пресли в программе "Приглашение к музыке". **15.05** Клуб путешественников. **15.55** "Один на один". Ведущий — А.Любимов. **16.35** Мультфейерверк:"Розовая пантера", "Приключения Вуди и его друзей". **17.25** Счастливый случай **18.15** Погода. **18.20** Приключенческий фильм "Одиссея капитана Блада". 2-я серия. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.35** Программа передач. **20.40** Новые приключения вождя краснокожих в комедии "Индеец в Париже". **22.30** Новости. **22.40** Футбольное обозрение. **23.10** Питер Фальк в рождественской истории "Пригоршня чудес". **1.40** Программа передач.

**РТР**

**7.00** "О принцессе Ясочке и крылатом сапожнике". Худ.фильм (Чехия). **8.25** "Приключения Буратино". М/ф. **9.30** По вашим письмам. **10.00** Вести в одиннадцать. **10.30** В мире животных. **11.00** М/ф. **11.10** Поэт в России — больше, чем поэт. **11.35** "Чепленджерс". Сериал для подростков. **12.30** Анонимные собеседники. **13.00** Вести про... **13.20** "Странник". Худ.фильм. **16.45** "Старая квартира. Год 1947". **17.55** Субботний вечер с В.Меньшовым и В.Алентовой. **19.00** Вести. **19.35** Брижжит Бардо в фильме "Ее брачная ночь" (Франция). **21.10** Погода на завтра. **21.15** Суета вокруг рояля. **21.30** Репортер. **21.45** Программа "А". **22.35** "Колесо любви". Худ.фильм.

**5**

**8.30** Целительное слово. **9.00** Папа, мама и я — спортивная семья. **9.30 "Чиж и К".** Музыкальная программа. **10.00** Кубок мира по лыжным гонкам. Мужчины. **12.45** "Дикий Гаврила". Худ. фильм (Россия). **13.55, 15.55, 18.55** Информ ТВ. **14.10** Еще одна Россия. **15.10** Валерий Афанасьев играет И.Брамса. **16.10** М/ф. **16.25** Детское ТВ: Сказка за сказкой. "Гости подземелья". Часть 2-я. **17.00** Равняется любовь... **17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания. Программа "Лотто-бинго". **18.40** Сокровища Петербурга. Русский музей. Иконы богородичные. **19.25** "Макаров". Худ.фильм. **21.00** Светская хроника. **21.15** Ноу смокинг. **21.55** "Настоящая любовь". Премьера худ.фильма (США).

**НТВ**

**7.00** Сегодня утром. **9.00** Мир приключений и фантастики. Худ.фильм "Где ты, Багира." **10.20** М/ф "Слоненок". **10.30** Телеигра "Пойми меня". **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Хоккей. Полуфинал молодежного чемпионата мира. **14.30** Панорама. **16.00** Книжный магазин. **16.30** Наше новое кино. С.Крамаров, М.Кокшенов, С.Фарада и Н.Крачковская в комедии "Русский бизнес". **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.30** Комедийный сериал "Дела смешные. Дела семейные". **19.00** Русский детектив. В.Ильин и Т.Догилева в фильме Г.Шенгелия "Стрелец неприкаянный". **20.45** Куклы. **21.35** Мир кино. **Джим Кэрри в фильме "Тупой и еще тупее"** (США). **23.25** Третий глаз. **0.10** Ночной канал."Плейбой-шоу".

## Воскресенье, 5 января

**БТ**

**8.00** Спорт и открытия. **8.20** Колесо времени. Исторический календарь. Январь. **8.50** "Премьера". Творческое объединение "Телефильм" представляет: "Дым на холсте". Док.фильм. **9.20** "Конон". Мультсериал. **9.45** Студия "Колыбельная". Новогодний "Мультик-луб". **10.45** Вершина мира. Телеигра. **11.15** Арсенал. Программа для армейцев. **11.50** "Все нормально, мама!" Развлекательная программа. **12.20** Туробъектив. **12.40** "Цирки мира". Многосерийный телефильм. "Великий Волшебный Серебряный Цирк" (Сидней, Австралия). **13.55** Студия "Окно". "Я рисую". **14.05** Сельчане. Телевстреча с хлеборобами республики. **14.35** "Война в воздухе". Док. сериал (США). **15.00** Новости. **15.10** Силач. Спортивный телеклуб. Прямая линия. **16.10** М/ф. **16.25** История любви. Галина и Борис Вайханские. **16.45** Зорная ростань. Телеконкурс молодых артистов эстрады. Гомельско-Гродненский тур. Передача 2-я. **17.30** По вашим просьбам. "Ловушка для одинокого мужчины". Худ.фильм. **19.05** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** Спортивный телекурьер. **21.10** Новости-ТВ. **21.30** Ток-шоу "Карамболь" с участием Валдиса Пельша. **22.10** "Синема" представляет: А.Делон и Р.Шнайдер в худ.фильме "Бассейн" (Франция-Италия). **0.10** Бархатный сезон.

**ОРТ**

**8.00** Новости. **8.15** "Новая жертва". Сериал. **9.00** В мире животных. **9.40** Пока все дома. **10.15** Играй, гармонь любимая! **10.45** "Случилось это зимой". М/ф. **11.00** Новости. **11.10** Международный фестиваль детских и юношеских программ стран СНГ. "Звездочки в степи" (Казахстан). **11.40** "Серая Шейка". М/ф. **12.05** Зимние каникулы! "Новогодние приключения Маши и Вити". **13.15** Брэйн ринг. **14.00** Новости. **14.20** "Космические спасатели лейтенанта Марша". Мультсериал. **14.45 Зимние каникулы!** Фильм-сказка "Три толстяка". **16.15** Повесть о нормальном человеке. **16.30** "Вокруг света". По страницам передачи "Клуб путешественников". **17.00** Новости. **17.20** "Новая жертва". Сериал. **18.05** Погода. **18.10** Час пик. **18.30** Джентльмен-шоу. **19.00** Удивительные истории в программе "Моя семья". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.40** Программа передач. **20.45** Нина Сазонова в фильме "Наш дом". **22.35** Новости. **22.45** Пять признаний в любви. Премия "Триумф". **23.35** Программа передач.

**РТР**

**7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 22.00** Вести. **7.15** Ретро-шлягер. **7.40** М/ф. **7.55, 20.10** L-клуб. **8.25** Лотто-миллион. **8.40, 17.45** "Клубничка". Телесериал. **9.10** "Санта-Барбара". Худ.фильм. **10.15** Торговый дом "Ле Монти". **10.30** Русское лото. **11.10** Деловая Россия. **11.50** "Чепленджерс". Сериал для подростков. **12.45** Там-там новости. **13.20** Магазин недвижимости. **13.25** "Близнецы в зоопарке". Худ.фильм (Чехия). **15.00** "К-2" представляет: Клаудиа Шиффер в программе "Сюжет". **16.15** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **16.55** Волшебный мир Диснея. "Чокнутый", "Аладдин". **18.15** Момент истины. **18.40** Особо важные персоны. **19.00** Зеркало. **20.00** "Дизайн-96" называет лучших. **20.40** Погода на завтра. **20.50** "Санта-Барбара". Худ.фильм. **21.45** "Фатум". М/ф для взрослых. **22.35** "На коне". Телелотерея. **23.00** "Наследство, или Девочки, плачу за все!" Худ.фильм (Чехия).

**5**

**10.00** Кубок мира по лыжным гонкам. Женщины. **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Информ ТВ. **12.10** "История любви". Сериал. **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.30** Советы садоводам. **13.45** "Особняк Половцева". Телефильм. **14.10** "Убойный отдел". Сериал. **15.00** "На бис". Сергей Захаров. **15.25** Ток-шоу "Наобум". Н.Фоменко. **16.10** "Чародей". Молодежный сериал. **16.35** Детское ТВ: "Полосатая музыка". **16.50** "Парад парадов" представляет группу "Два самолета". **17.35** Показывает Ленинградская областная телекомпания. "Коктейль". **18.40** Большой фестиваль. **19.25** "История любви". Сериал. **20.15** Золотой пеликан. **20.45** Телеслужба безопасности. **21.00** "Убойный отдел". Сериал. **21.55** Международное обозрение. **22.25** Спортивное обозрение. **22.35** "Посмотрим". Анонс телепрограмм. **22.50** Как быть любимыми.

**НТВ**

**5.00, 9.00** Сегодня утром. **9.15** Женские истории. Худ. фильм "Жареные зеленые помидоры" (США). **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Российские университеты. **13.20** Большое Времечко. **15.35** Дистанция 60. **16.35** Наше новое кино. А.Джигарханян, В.Золотухин, М.Кокшенов, Т.Догилева, и Н.Крачковская в комедии "Говорящая обезьяна". **18.00** Сегодня вечером. **18.30** Комедийный сериал ."Дела смешные. Дела семейные". **19.00** Сериал по выходным. "Гангстерские хроники: американская история" (США). 1-я серия. **20.00** Итоги. **21.10** Мир кино. Сильвия Кристель в комедии "Обнажающая бомба" (США). **22.55** Луиз: настоящая история рок-н-ролла Тома Апдика. **23.40** Мир кино. Эротическая комедия "Римини, Римини: год спустя" (Италия).

# Пра сябра

***У сваю бытнасць супрацоўнікам Маладзечанскага гісторыка-краязнаўчага музея Генадзь Каханоўскі часта наведваў Мядзельшчыну. Цікавіўся мясцінамі, дзе нарадзіўся паэт-дэмакрат Адам Гурыновіч, дзе жыла першая выканаўца ролі Паўлінкі ў аднайменнай камедыі Янкі Купалы Паўліна Мядзёлка. У Крывічах шукаў звесткі пра братоў Ходзькаў (паэтаў, ваеначальнікаў мінулага стагоддзя).***

Генадзь Аляксандравіч не абмінаў рэдактара мядзельскай раённай газеты "Нарачанская зара". Расказваў, якія матэрыялы адшукаў і пра нашых землякоў, калі працаваў у архівах, музеях Масквы, Ленінграда, Кіева, Вільні. Ад яго я, у той час супрацоўнік райгазеты, даведаўся пра адрасы знакамітых людзей Мядзельшчыны, якіх лёс закінуў далёка. Дасылаў ім лісты, прасіў расказаць пра жыццёвы шлях, выслаць фотаздымкі.

Дзякуючы такой дапамозе Г. Каханоўскага, рэдакцыя змагла расказаць пра Івана Малькогалоўнага садавода Ленінграда, атрымаць яго кнігу па пытаннях дэкаратыўнага садоўніцтва.

З Нясвіжа прыйшло пісьмо-успамін Міхаіла Сеўрука, які афармляў вокладку кнігі "На этапах" Максіма Танка (кнігу канфіскавалі ўлады буржуазна-памешчыцкай Польшчы, уцалела некалькі экземпляраў). Жыхар Вільні Канстанцін Новікаў з задавальненнем напісаў, што пазнаёміўся з Максімам Танкам яшчэ да 1939 года, калі Заходняя Беларусь была ў складзе польскай дзяржавы, у кнігах паэта чытаў пратэст супраць несправядлівага ладу.

Пасля 17 верасня 1939 года К. Новікаў прымаў удзел у арганізацыі друкарні, дзе пачала выдавацца "Віленская праўда" (рэдакцыя потым пераехала ў Вілейку, супрацоўнікам з'яўляўся і Максім Танк).

Пасля вайны (раненне на фронце і дэмабілізацыя) прыехаў у Вільню і стаў літаратарам друкарні, дзе выдавалася на польскай мове газета "Czerwony sztandar". Канстанцін Новікаў перакладаў на польскую мову вершы Максіма Танка, знаёмячы жыхароў Літвы з творчасцю свайго сябра.

У мяне захавалася адно неапублікаванае пісьмо К. Новікава. У ім аўтар піша: "Калі ў ЛіМе была апублікавана заметка пра мае пераклады і сувязі з Танкам, Машарам, Шырмам у даваенныя гады, мяне жартам абвінавацілі, што я дабіваюся вяртання Вільнюса Беларусі, тым больш, што першай савецкай газетай у вызваленым пасля 17 верасня 1939 года была там "Віленская праўда". Затым, пасля пераносу літоўскай сталіцы з Каўнаса ў Вільнюс, рэдакцыя і друкарня гэтай газеты пераехалі ў Вілейку. Дарэчы, нідзе ў архівах і бібліятэках няма нават асобных экземпляраў гэтай газеты (віленскага перыяду)".

Нядаўна ў ЛіМе прачытаў заметку-просьбу інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі дасылаць усё, што звязана з імем Максіма Танка (рыхтуецца выданне першага збору твораў паэта). І я пераслаў па ўказанаму адрасу пісьмо К. Новікава. Лічу, што справа гонару для ўсіх, хто мае штонебудзь пра Максіма Танка, зрабіць гэтак жа.

... Так рана адышоў ад нас выбітны чалавек, вучоны, пісьменнік, грамадзянін, грамадскі дзеяч Генадзь Каханоўскі. След, які ён пакінуў на Зямлі, застанецца назаўсёды.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*



*Г. Каханоўскі сярод работнікаў абласнога музея.*
*Фота Міхаіла АСАЕВІЧА.*

## Пытанне юрысту

***Ці ўлічваецца пры падліку сукупнага даходу сям'і для прызначэння дапамогі на дзяцей сума раней атрыманай дапамогі, якія памеры такой дапамогі і якія дакументы неабходна прадастаўляць для прызначэння дапамогі?***

*Жоўтка Л. Н., г. Вілейка*

Згодна з Палажэннем аб парадку падліку сукупнага даходу на члена сям'і пры прызначэнні дапамогі на дзяцей, зацверджаным пастановай Дзяржкампрацы і Мінфіна Рэспублікі Беларусь 31. 01. 94, у даход улічваюцца дапамогі па ўходу за дзіцём да дасягнення ім узросту трох гадоў (п. 13). У той жа час дапамогі на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 (18) год сем'ям, што выхоўваюць дзяцей, у сукупным даходзе не ўлічваюцца (раздзел Е).

У адпаведнасці з арт. 16 Закона "Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, што выхўваюць дзяцей", дапамога ўстанаўліваецца ў памеры:

120% ад мінімальнай зарплаты (МЗП) на дзяцей ва ўзросце да 3-х год; 50% МЗП на дзяцей ад 3 да 6 год; 60% МЗП на дзяцей ад 6 да 13 год; 70% МЗП на дзяцей ад 13 да 16 год (навучэнцаў дзённых сярэдніх школ, гімназій, ліцэяў і іншых падобнага тыпу навучальных устаноў да іх сканчэння, а таксама навучэнцаў, што вучацца за кошт асабістых сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах, што працуюць па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый,- да 18 год).

Нядаўнім Указам прэзідэнта "Аб павелічэнні памераў дзяржаўнай дапамогі сем'ям, што выхоўваюць дзяцей" памеры дапамог, устаноўленых Законам, павялічаны на 50%.

Дапамога на дзяцей да 3-х год выплачваецца ў поўным памеры без усякіх умоў. Дапамога на дзяцей, старэйшых за 3 гады, выплачваецца ў поўным аб'ёме пры ўмове, што сярэдні сукупны даход на члена сям'і ў месяц не перавышае 2-разовай велічыні МЗП, і ў памеры 50% , калі даход не перавышае 3-разовай велічыні МЗП.

Дапамога на дзяцей сем'ям, што выхоўваюць дзіця-інваліда, а таксама сем'ям ваеннаслужачых тэрміновай службы прызначаецца і выплачваецца незалежна ад сукупнага даходу на члена сям'і.

Дадаткова да дапамогі ў сувязі з ростам цэнаў захоўваюцца ранейшыя індэксацыі і кампенсацыі: на дзяцей да 3 год- 50 тысяч, на дзяцей, старэйшых за 3 гады,- 40 тысяч рублёў.

Для прызначэння дапамогі прадастаўляюцца даведкі аб даходах кожнага члена сям'і за календарны год, які папярэднічаў году звяртання за прызначэннем дапамог на дзяцей, даведкі аб суме атрыманай дапамогі на дзяцей да 3 год, копіі пасведчанняў аб нараджэнні дзяцей, даведкі з месца вучобы дзяцей ва ўзросце да 18 год аб суме атрыманай стыпендыі або даведкі аб тым, што яны вучацца за свой кошт і не атрымліваюць стыпендыі. Грамадзяне, што займаюцца прадпрымальніцтвам без утварэння юрыдычнай асобы і маюць, акрамя таго, асноўнае месца работы, прадастаўляюць даведкі з падатковай інспекцыі і аб даходах з асноўнага месца работы. Трэба ўлічваць, што дапамога на дзяцей, старэйшых за 3 гады, прызначаецца пры ўмове выплаты бацькамі ўзносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне. У тых, хто працуе на прадпрыемствах і па найму ў прадпрымальнікаў, узносы ўтрымліваюцца ў абавязковым парадку, і ім не трэба даведак, што гэта пацвярджаюць. Самі ж прадпрымальнікі, якія не маюць асноўнага месца работы, плацяць узносы на сацстрах у добраахвотным парадку. У сувязі з гэтым яны абавязаныя прадаставіць даведку аб выплаце ўзносаў на сацстрах.

*Аляксандр ДЗЕРГАЧОЎ, прыватны юрыст.*

## Падарункі ад выканкома

***АСТРАВЕЦ. У гэтыя перадэнавагоднія дні дзятва чакае падарункі, што кладуць пад ёлку бацькі. Многія іх аднагодкі- дзеці-сіроты і інваліды- такую радасць маюць не кожны Новы Год.***

Прадстаўнікі выканкома развозяць амаль 90 дзецям падарункі і сувеніры-Дзеда Мароза і Снягурку. Грошы выканком выдзеліў з фонду непрадбачных расходаў, сувеніры зрабілі гурткоўцы дзіцяча-юнацкага цэнтра.

## ... і ад Саюза палякаў

Не засталося ў баку ад віншаванняў з Калядамі і Новым Годам і раённае аддзяленне Саюза палякаў. Яно паклапацілася аб падарунках дзецям, якія вывучаюць на школьных факультатывах польскую мову.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Па сакрэту ўсяму свету




# Торт да свята

*Шмат хто з дамашніх кулінараў выкарыстоўвае гэты рэцэпт. Торт вядомы пад назвамі "Літоўскі", "Мядовы", "Дамскі капрыз". У кожнай хатняй гаспадыні ён набывае свае смакавыя асаблівасці. Калі вы яшчэ не маеце ўласнай рэцэптуры, паспрабуйце прыгатаваць яго такім чынам.*

У каструлі змяшаць 3 яйкі, 1 шклянку цукру, 50-70 г масла, 2-3 сталовыя лыжкі мёду.

Цеста рыхтуецца на "паравой лазні". Для чаго патрэбна яшчэ адна каструля, трошкі большая ў памеры, але не занадта, бо інакш працэс прыгатавання вельмі зацягнецца і вы стоміцеся.

У большую каструлю наліце вады столькі, каб яна не вылілася, калі вы паставіце ў яе меншую. Дайце вадзе закіпець. Пасля чаго пастаўце ў кіпень на агню каструлю з цестам. Мяшайце яго ўвесь час, каб яйкі не пазварочваліся асобна ад цеста. Варыць на "паравой лазні" трэба абавязкова (!) да таго часу, пакуль вада ў вялікай каструлі зноў не закіпіць. Калі вы не дачакаецеся характэрных для кіпеню бурбалак, торт можа не атрымацца.

Вада закіпела. Не спыняйцеся. Мяшайце. Дадайце ў цеста 2 маленькія лыжкі соды. Цеста пачне пеніцца і павялічыцца ў аб'ёме прыкладна ў 2 разы. Усё цеста стала аднародным, пеністым. Цяпер дадайце 1-2 шклянкі мукі. Абавязкова вышэйшага гатунку, папярэдне прасеяную праз сіта. Цеста паменшыцца ў аб'ёме. Мяшайце яшчэ прыкладна 5 хвілін, каб не прыгарэла, а мука надала цесту карычневатае адценне і яно загусцела.

Зніміце каструлю з цестам з агню і дадайце яшчэ шклянку мукі. Змяшайце і выкладзіце на стол. Цеста яшчэ цёплае. Каб не прыліпала да рук і стала, падсыпайце муку. Сфармуйце і раздзяліце на 6-8 частак. Кожную з іх трэба раскатаць у тонкі пласт. Раскатвайце ў муцэ. Цеста возьме яе столькі, колькі патрэбна. Чым танейшы будзе корж, тым лепш.

Каржы выпякаюцца ў духоўцы вельмі хутка: 3-5 хвілін, калі вы папярэдне добра яе разагрэеце. Толькі корж пацямнее і пойдзе пах– гатовы. Надаваць форму торта, абразаць краі трэба пакуль каржы яшчэ цёплыя. Астынуць– будзе позна, бо стануць вельмі крохкімі. Таму па форме першага абрэзанага каржа абразайце і астатнія, кладучы іх па чарзе адзін на адзін па меры выпечкі.

Падрыхтаваныя каржы трэба змазаць крэмам. Для гэтага не патрэбны вельмі густы крэм. Вы можаце зрабіць яго са згушчонкі (варанай ці звычайнай), паўзбіванай з маслам. Але торт атрымаецца больш мяккім, не прыкра-салодкім і з падкрэсленай мядовым водарам, калі вы зробіце крэм са смятаны, паўзбіванай з цукровай пудрай. Цукру кладзіце ў смятану па свайму густу.

Вы можаце пакласці паміж каржамі ці ўпрыгожыць торт зверху разынкамі, арэхамі (нацёртым на тарку какосам), журавінамі. А можаце нічога не дадаваць. Выкарыстайце для камуфляжу абрэзкі каржоў, якія засталіся. Пад качалкай яны добра расціраюцца ў дробную крошку. Абсыпце ёй змазаныя крэмам бакі торта і яго верх. Каб торт стаў мяккім, яго трэба вытрымаць у холадзе 6-8 гадзін.

Складаная, на першы погляд, тэхналогія прыгатавання торта пры набыцці звычкі займае няшмат часу: 1-1,5 гадзіны. А падабаецца гэты рэцэпт усім, нават дасведчаным у кулінарыі гаспадыням.

# Фіфачка

*Менавіта пад такой арыгінальнай назвай паведаміла мне рэцэпт гэтага блюда вілейчанка Ніна Ігнатовіч. А рыхтуецца яно як плоў з курыцы на малацэ.*

На дно качачніцы пакласці слой нашаткаванай цыбулі. Затым слой морквы, нацертай на тарку. І потым кавалачкі курыцы, папярэдне прасоленыя і паперчаныя. Адной невялікай курыцы будзе дастаткова. Рыс (1-1,5 шклянкі) добра паппрамываць і вытрымаць у вадзе гадзіну. Выкласці слоем на курыцу. Зверху заліць маянезам (0,5-1 шклянкі) і малаком (0,5 л), каб рыс быў цалкам пакрыты. Пад накрыўкай тушыць у духоўцы (ці ў печы) да гатоўнасці. У канчатковай стадыі рыс не павінен быць рассыпістым. Таму ў працэсе прыгатавання можна трошкі падліць малака.

Смачна есці!

*Святлана САРОКА.*

# Бяссонныя ночы ў горадзе

*МАЛАДЗЕЧНА. У інтэрнаце палітэхнікума ўсё часцей і часцей па начах гарыць святло. Гуляюць? Не— пішуць курсавыя работы.*

Пачынаюцца яны з IV курса, а разам з імі– і бяссонныя ночы.

Колькі стараннасці, цярпення трэба прыкласці, каб акуратна, без памылак, ды і своечасова, выканаць і здаць работу. А яшчэ, бывае, зробіш у пачатку памылку ў разліках– і зноў усё пералічваць, перапісваць.

А для тых, каму веды не так важныя, як дыплом, ды і кішэня дазваляе, існуе спосаб аблегчыць сабе жыццё. Усяго за 10-15 долараў (у залежнасці ад складанасці работы) выдатнікі, якія маюць патрэбу ў грашах, разлічаць і аформяць работу па вышэйшаму класу. Чыста па-сяброўску– і за 100 тысяч нашых "зайчыкаў".

Для выканання дыпломнай работы па заказу "багаценькім" неабходна выкласці 30-40 долараў.

Што датычыць навучэнцаў медвучылішча, то ў іх менш распаўсюджана "работа па заказу", бо ім не прыходзіцца карпець над разлікамі, як калегам з МПТ. Ну, а калі камусьці з "медыкаў" шкада марнаваць каштоўны час, то за 100-200 тысяч можна дамовіцца.

Ва ўлікова-планавым тэхнікуме таксама не падзаробіш: курсавых работ там няма, толькі дзяржэкзамены.

Свая спецыфіка і ў музвучылішчы, бо і тут не робяць падобнае.

А было і такое: дзяўчына-школьніца цэлымі днямі (пад пільным кіраўніцтвам) пісала курсавыя свайму сябру. Бо ў яе любага была зламаная рука. А яшчэ нехта не верыць у сапраўднае каханне.

Якой жа цаной абыходзяцца гэтыя курсавыя добрасумленным навучэнцам? Гэта выдаткі на паперу, ручку, аловак, шмат нерваў і ў дадатак да ўсяго гэтага крэпкая гарбата ды тыя ж бяссонныя ночы.

*Надзея ЛІСАВА.*

## Адам і Ева

# Дравяніцкі сшытак

*АСТРАВЕЦ. Дравянікі размяшчаюцца ў 12 кіламетрах ад райцэнтра і нічым асаблівым ад іншых вёсак не адрозніваюцца. Але маюць асаблівасць, пра якую ведаюць нямногія.*

Гаворка ідзе пра так званы вусны сшытак, які вядуць бабулі і дзядулі. "Гонар" быць занесеным у яго маюць хлопцы, якія прыйшлі з войска і доўгі час не жэняцца. А іх ужо налічваецца 14 чалавек. Прычын такім "паводзінам" можна знайсці мноства.

Хтосьці "ўлёгся" ў гарэлку і гадамі не можа выйсці з запою, іншы адседзеў "на зоне" і не змог знайсці сябе ў жыцці, а ёсць, нават, і свядомыя халасцякі. Апошнія прызнаюцца, што не змогуць пацягнуць сямейны воз. Самым маладым з гэтай кампаніі па 22 гады, а старэйшым даходзіць да 50.

Магчыма, не было б такой праблемы, каб дзяўчат у вёсцы было больш, бо сёння тут жывуць толькі 4 прыгажуні. Аднак лёд абяцае крануцца на вясну, ходзяць чуткі, што некаторыя ўсё ж будуць жаніцца. У гэтым выпадку старыя будуць радавацца, а астатнія халасцякі задумаюцца: "Ці не жаніцца?"

*Марэк ВІНТЭР.*

# Соннік *ад Адама Савіцкага*

*Раніцай Адам заклапочаны, а ў Евы на твары салодкая ўсмешка. Напярэдадні Новага Года многія сняць эратычныя сны. Прычым, звязаныя з незвычайнымі прадметамі, сімваламі. Абапіраючыся на работы навукоўцаў мінулага стагоддзя, сучаснікаў, мы абагульнілі іх назіранні і склалі невялікі дапаможнік па тлумачэнні эратычных сноў.*



**Ванна, лазня, басейн**– вам сорамна за свае сексуальныя прыгоды перад роднымі. Хочаце іх змыць з душы.

**Кроў**– чакаеце новых перамог.

**Валасы**– для вас не павінна быць забабонаў у выбары чалавека і паводзінах з ім.

**Танцы**– можаце, і хочаце, і мусіце атрымліваць асалоду. Але саромеецеся.

**Вы гвалтаўнік**– не хапае рамантыкі ва ўзаемаадносінах.

**Эротыка пад дажджом**– не хапае цеплыні, моцных пачуццяў.

**Каханне ў ложку з завязанымі вачыма**– недастаткова гэтым займаецеся.

**Каханне ў гурбе**– на вас паклала вока цешча (свёкар).

**Назвалі жонку (мужа) не яе (яго) імем**– трапіце ў складаную сітуацыю.

Парады.

Калі напярэдадні свята сумуеце,

1) пагартайце свой фотаальбом, успомніце прыгожыя моманты жыцця;

2) выконвайце свае абавязкі па доме, каб былі занятыя галава і рукі;

3) пакахайце, хапае і платанічнай улюбёнасці;

4) прывядзіце дамоў кацяня ці сабаку;

5) (і самае галоўнае) абавязкова падпішыцеся на "РГ".

## Каляндар прыроды

# Студзень

*Нішто так трапна, дасціпна не адлюстроўвае стан прыроды, як народныя прыказкі і прымаўкі. Аб моцных зімой маразах у народзе гавораць так: "Мароз-- аж іскры сыплюцца", "Январ-- як вар", "Студзень зямлю студзіць", "Студзень хаты студзіць, гаспадароў будзіць", "Зіма-- свякруха, лета-- матачка", "Зімой сонца свеціць, ды не грэе".*

Народная прыкмета-- "Студзень году пачатак, а зіме-- палавіна" дакладна вызначае месца студзеня ў календары. У многіх прыказках і прымаўках народ па студзені прыкмячае, якім быць лету ці вясне:

Студзень імглісты-- мокры год, студзень халодны-- позняя восень і дажджлівае лета,

Як зіма без марозу, так вясна без шкоды не абыдуцца,

Студзень мяце-- ліпень залье,

Калі ў студзені дажджы-- дабра не жджы,

Як студзень цёплы на лік, дык завідны сакавік,

Студзень пагодны-- будзе год плодны.

*Янка БАРАВЫ.*

# Алімпійскае золата абмяняў на залатую мару

*АШМЯНЫ. Адначасова наведаць музей працоўнай славы (колькасць узнагарод уражвае), узорна-паказальную стайню і спартыўную арэну магчыма. Калі вы ў гасцях у алімпійскага чэмпіёна, чэмпіёна СССР Віктара Угрумава. Конна-спартыўны цэнтр, які ён пабудаваў за чатыры гады пасля адыходу ад трэнерскай работы, у замежных каталогах так і завецца— імя Угрумава.*

*— Віктар Пятровіч, у сусветным рэйтынгу спецыялістаў на конным спорце вы адзін з першых. Жыць бы за мяжой і трэніраваць каралеўскую сям'ю. Тут, здаецца, вы ізаляваныя ад таго асяроддзя, у якім знаходзіліся.*

– Выступаў з прынцэсай Англіі, графамі, дзецьмі палітыкаў. Конны спорт– элітны. За руку вітаўся з гаспадаром дзесяткаў германскіх супермаркетаў Некерманам, еўрапейскім каралём бублікаў Альбертам Хендрыксам. Ды і сёння ўвесь бамонд у мяне– толькі што развітаўся з турэцкім паслом і французскім консулам.

*— Вядомы спартсмен і трэнер стаў камерсантам?*

– Мяне выгналі са спорту беларускія чыноўнікі. Але я не спіўся, як многія, а дасягнуў сваёй мары. Пабудаваў два манежы, стайню на 45 галоў, 4 катэджы, склады. Маю зямлю. Спачатку лічылі, што займаюся спекуляцыяй. Купляю дзікіх коней і перапрадаю за мяжу.

Але мы іх вучым, а толькі потым прадаем. Да нас трапляюць такія дзікія коні, што зімой у стэпу ваўкі іх абыходзяць.

Аднойчы завітала да нас і падатковая інспекцыя. А мы якраз коней аб'язджалі. Дык некаторыя чыноўнікі паўцякалі– не змаглі глядзець. Праўда, ёсць Абрэк, які за паўгода толькі пачаў хлеб





браць з рук, а так да яго і не падыдзеш.

Я аб'яднаў класных спецыялістаў, навукоўцаў. Вось на манежы былы старшы трэнер па навуцы зборнай Саюза. Многіх "выперлі", як і мяне, за характар.

*— Вы любіце коней?*

– Яны нас не любяць. Гэта ўсё казкі– пазнаў конь гаспадара, падбег, лашчыцца. Галоўнае– рэфлексы. Вось зараз Самураю падабаецца твая спіна–тыцкаецца мордай.

*— А наогул, больш паслухмяныя "хлопчыкі" ці "дзяўчынкі"?*

– У нас ёсць жывы матэрыял, з якім працуем. Жарабцоў адразу кастрыруем. Таму пол, ды і некаторыя фізічныя дадзеныя, не маюць значэння. Мой першы конь, якога самастойна рыхтаваў, быў поўнасцю сляпы. Але Ліхі перамагаў на спаборніцтвах. Выдатная радаслоўная– не паказчык. Спартсмена можна зрабіць і са стэпавага каня. Што тычыцца паслухмянасці, то адзін камерсант піша мне з Германіі: такога паслухмянага каня прадалі, што чатырохгадовы сын становіцца яму на спіну і скача.

*— Угрумаў у жыцці вясёлы?*

– І вясёлы, і шчаслівы. Галоўнае– я горды савецкі чалавек. Чаму не беларускі? Усе гордыя беларусы цяпер у Амерыцы.

*Ірына ГАНЕВІЧ, Васіль САВІЦКІ.*




## Крыжаслоў *з падказкай*

**Па гарызанталі:** А1. Наркатычнае зелле афрыканцаў. А12. З яе загарэлася полымя, якое і цяпер не патушылі. Б8. Адзін з пладоў пальмы. В1. Прылада для скачкоў у вышыню. В12. Жаночае імя. Г8. Рэчка ў Францыі. Д1. Горад у Гродзенскай вобласці. Д12. У тэнісе: гульня жанчыны і мужчыны разам. Ё1. Любімае слова Адама Савіцкага. Ё9. Частка гусеніцы танка, трактара. Ж12. Ягада. З1. Самая тыражная мясцовая газета ў рэгіёне (і Маладзечне, у прыватнасці). К4. Тое самае, што і касманаўт, толькі ў вадзе. Л1. Каштоўны камень. М6. Кветка. Н1. Украінец, прызнаваўся лепшым гульцом расійскага футбола.

**Па вертыкалі:** А1. Пухліна на паднябенні жывёлы. А4. Зімовая спартыўная пляцоўка. А6. Жаночае ўпрыгожанне. А8. У разуменні індзейцаў, лепшая частка галавы. А10. Каштоўны камень. А12. ..., Рэспубліка Іран. А15. Агародніна. Д2. Атрута (ёсць у цыгарэтах, мясе і г. д.). Д5. Планета. Д14. Выкуп за нявесту. Д16. Марка радыёпрыёмніка, які выпускаюць у Маладзечне. Ж8. Дрэва. З4. Разнавіднасць хімічнага элемента. З6. Нядаўняя падзея. З11. Творчая спецыяльнасць. К9. Свойская жывёла.

### Адказы на крыжаслоў, змешчаны ў N 48.

**Па гарызанталі:** 7. Свінарнік. 8. Дэгенерат. 9. Андатра. 11. Акруга. 12. Фігавы. 14. Самавар. 17. Сцягняк. 18. Акарына. 19. Сахара. 20. Кнопка. 21. Страпок. 25. Акведук. 26. Абутнік. 31. Усцюрт. 32. Панама. 33. Марафон. 34. Бранзалет. 35. Пацыентка.

**Па вертыкалі:** 1. Звонкасць. 2. Барыга. 3. Піяніна. 4. Тэарэма. 5. Аналіз. 6. Ратаванне. 10. Абраза. 13. Згустак. 14. Скварка. 15. Рамонак. 16. Арбалет. 21. Атмасфера. 22. Натура. 23. Сухамятка. 27. Багацей. 28. Ідэолаг. 29. Брынза. 30. Гамлет.

## Паэзія

### Я лецейка жадаю вам

Шэрань, снег, дарога ў лесе,
Спіць срэбных соснаў карагод.
Не чутна ў лесе зімнім песень:
Марозы, снег, халодны лёд.

Дарога ў панцыры лядовым,
Пад ёй імхі і сон-трава...
Я вас вітаю з Годам Новым,
Я лецейка жадаю вам!

Навіслі хмары, дрэвы гнуцца,
Усё спіць і верыць цяжкім снам.
Жадаю вам хутчэй прачнуцца,
Я лецейка жадаю вам!

Імгненні адбівае сэрца,
Імгненні... іх не супыніць.
Вясна надыдзе, цёплы вецер
Разбудзіць, каб любіць і жыць.

*Лявон ЦІМОХІН,*
*Маладзечна, 1996 г.*

## Яўрэйскі анекдот

# Ён і яна

✡ ✡ ✡

Размова яўрэяў.

– Шлюб– гэта інстытут здароўя,– кажа лекар.

– Шлюб– гэта паэма,– гаворыць настаўнік-філолаг.

Малады студэнт сцвярджае з захапленнем:

– Шлюб– гэта спакойная прыстань, дзе сустракаюцца два караблі.

Аптэкар, які да гэтага часу маўчаў, глыбока ўздыхае:

– Вельмі шкада, што я мусіў сустрэцца з ваенным караблём!

✡ ✡ ✡

Янкель Гольдберг наведвае свайго прыяцеля і даваяраецца яму:

– Уяві сабе, заручыў дачку, павінен аддаць тысячу рублёў, але мне не хапае паловы пасагу.

Прыяцель суцяшае яго:

– Слухай, не будзь такім педантычным. Звычайна аддаюць палову абяцанага пасагу.

– Так,– уздыхае Янкель,– але менавіта гэтай паловы мне і не хапае.

✡ ✡ ✡

Лэйба Собаль ажаніўся і штодня расхвальвае перад калегамі вартасці сваёй палавіны. Урэшце гэта надакучыла. Аднаго разу таварыш узяў Лэйбу пад локаць:

– Дай спакою са сваімі размовамі. Усе смяюцца з цябе. Ці не ведаеш, што ў тваёй жонкі чацвёра каханкаў?

– І што з таго?– усміхаецца Собаль.– Лепш мець дваццаць працэнтаў у вартай справе, чым сто ў благой.

✡ ✡ ✡

– Давід, мінулай ноччу я прысніў тваю жонку.

– І што яна гаварыла?

– Што яна павінна гаварыць? Яна нічога не казала.

– Ведаеш што? Гэта не мая жонка.

✡ ✡ ✡

– Мой каханы,– гаворыць Сара свайму мужу-банкіру.– Гэты твой касір, якога ты трымаў за пачцівага чалавека...

– Ай!– хапаецца за сэрца банкір.– Што сталася?

– Сёння ён прызнаўся мне ў каханні.

– Фу, дзякуй богу! А я падумаў– уцёк з касай.

✡ ✡ ✡

– Ведаеш, Ёсель Гольдвасэр ажаніўся з удавою.

– Я б ніколі не хацеў стаць другім мужам удавы.

– А я насупраць. Я б хацеў быць лепш другім мужам удавы, чым першым.

✡ ✡ ✡

Аднаго разу Гершаль Астраполер заходзіць у сінагогу з падзёртым носам, што выклікае агульны смех:

– Што ж гэта зрабіць, каб так пагрызціся са сваёй палавінай?

– Ды я сам сябе ўкусіў,– запэўнівае Гершаль.

– Ну і манюка! Як жа ты дастаў зубамі да ўласнага носа?

– Вялікая штука! Залез на стол.

✡ ✡ ✡

Потаж і Тачынер– супольнікі.

Потаж раптоўна загарэўся палымяным пачуццём да жонкі свайго кампаньёна Адэлі. Але тая аднак не збіраецца парушаць шлюбнай прысягі. Усе палымяныя лісты і любоўныя прызнанні Потажа застаюцца без адказу.

Урэшце залётнік, якому ўсё не шанцуе, прапануе пані Адэлі дзве тысячы злотых. На гэты раз непрыступны мур вернасці быў разбураны. Да таго ж, муж павінен ехаць па справах да Варшавы.

Калі Тачынер вяртаецца, то ад самага парогу задае нечаканае пытанне:

– Ці прыходзіў сюды Потаж?

– П-п-п-рыходзіў...– шэпча збялелымі вуснамі Адэля.

– Ці прыносіў дзве тысячы злотых?

Пані Адэля пахіснулася:

– П-п-п-рыносіў...

– Ай-ай-ай, які прыстойны чалавек! Учора раніцай пазычыў у мяне грошы і паабяцаў, што вечарам табе аддасць. Стрымаў сваё слова!

✡ ✡ ✡

Шадхен– пасрэднік у справах жаніцьбы, сват– выхваляецца свайму калегу:

– Я ўзяўся ажаніць сына Ротшыльда з дачкой Рабіновіча.

– Кінь глупства, ніколі гэтага не будзе.

– Мой дарагі, пяцьдзесят працэнтаў ужо ўладжана: Рабіновіч даў згоду.

✡ ✡ ✡

Кандыдат у жаніхі пытаецца ў шадхена:

– Дзяўчына прыгожая?

– Прыгожая і багатая.

– Колькі тысяч мае ў пасагу?

– Столькі, колькі гадоў.

– А колькі ёй год?

– Дваццаць.

– Ведаеце, пан Маер, яна крыху замаладая для мяне.

✡ ✡ ✡

Сват час ад часу падгаворвае маладога чалавека ажаніцца.

– Ажаніцца? Не мела баба клопату!

– Якія там клопаты? Ты проста не ведаеш, што такое сямейнае жыццё! Што за скарб! Уяві сабе: прасынаешся– жонка табе ўсміхаецца як анёлак, на стале ўжо згатаваны сняданак, а побач на крэсле адпрасаваны касцюм. Прыходзіш з работы на абед– на стале ўсе твае любімыя прысмакі. А пасля абеду жонка клапоціцца пра тое, каб табе ніхто не перашкодзіў падрамаць. Ну, а вечарам, пасля вячэры, сядаеш у сваім любімым фатэлі, жонка падае газету, сядае побач і пачынае апавядаць пра тое, што адбылося за дзень. І гаворыць, гаворыць, гаворыць... Ой, каб ёй мову адняло.

✡ ✡ ✡

Кандыдат у жаніхі– чалавек вельмі недаверлівы. Сват, за колькі хвілін перад першым афіцыйным візітам, праводзіць яго па дому будучага цясця і шэпча:

– Прыглядзься да гэтага старога срэбра, крышталю і фарфору.

– Хто ведае, а можа гэта ўсё пазычана ад суседзяў?

– Ну, ты скажаш! Хто такім людзям нават дробязь пазычыць?!

✡ ✡ ✡

Янкель сустракае Сару, да якой заляцаецца колькі месяцаў.

– Добры дзень! Што робіць ваш муж?

– Мой муж заўчора паехаў у Вільню.

– І доўга там будзе?

– Цэлы тыдзень.

– Ой, як гэта добра! Дык я сёння прыйду да вас на ноч.

– Пан Янкель! Што вы сабе ўяўляеце? Я не жанчына лёгкіх паводзін!

– Пані Сара! А хто вядзе гаворку пра грошы?

✡ ✡ ✡

Шадхен сватае адзіную дачку багацея з малога мястэчка і пералічвае бацькам перавагі будучага зяця:

– Не бядняк, адукаваны, унук рабіна. Скарб! Сапраўдны скарб! Праўда, ёсць невялічкі недахоп: заікаецца.

– Але ці заўсёды?– пытаецца клапатлівая матка.

– Барані божа! Толькі калі гаворыць.



## Чаму ваша бясплатная аб'ява не трапіла на старонкі "Рэгіянальнай газеты"?

1. Прычынай- чарга, якая складае прыкладна месяц. Крыху пачакайце або заплаціце за пазачарговую публікацыю аб'явы.
2. Вы не ўказалі для рэдакцыі свае прозвішча, імя або адрас.
3. Напісана неразборліва.
4. Змест аб'явы носіць дзелавы характар.

**Нашы расцэнкі на публікацыю аб'яў па-за чаргой (тэрмінова ў нумар) і дзелавога зместу: адно слова– 3 тыс. рублёў.**

Рэдакцыя прымае аплату і праз паштовыя пераводы на адрас: 222310, Маладзечна, ФАКБ "ПОИСК", р/р 3012202890044, код 115, рэдакцыя "РГ". Тэкст аб'явы і квіток аб пераводзе высылайце на адрас: 222310, Маладзечна-7, а/с 32.

**Сярод выданняў рэгіёна наша газета мае самы высокі тыраж. У нас прымальныя расцэнкі на аб'явы. Скарыстайце магчымасць стаць кліентам "РГ".**

## КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў 52

Пішыце тэкст разборлівымі літарамі. Аб'ява павінна ўтрымліваць толькі адну прапанову. Аб'ём тэкста— не больш за 15 слоў. Аб'явы друкуюцца ў парадку чаргі. *Дашліце купон у канверце на адрас: 222310, Маладзечна-7, а/с 32.* Без чаргі аб'явы платныя. Даведкі па тэл. (01773) 53841

Тэкст аб'явы : ______________________

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):

## Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна

| | |
|---|---|
| Маладзечна ... | 01773, |
| Вілейка .......... | 01771, |
| Смаргонь ....... | 01592, |
| Ашмяны ......... | 01593, |
| Валожын ........ | 01772, |
| Мядзел .......... | 01797, |
| Астравец ........ | 01591, |
| Мінск ............. | 0172 |

